# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (622) ГОД XIII 28 СТУДЗЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ГАЙНАЎСКІ АДДЗЕЛ У 1967 ГОДЗЕ

Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства ў мінулым годзе меў значна большыя дасягненні ў параўнанні да 1966 года. Праўленне аддзела навязала добрае супрацоўніцтва з многімі арганізацыямі і ўстановамі і супольна з імі праводзіла шмат мерапрыемстваў з павятовага плана.

І так, з партыйнымі ўладамі БГКТ адзначала 25-ую гадавіну заснавання Польскай рабочай партыі (ППР) і 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У сувязі з першай гадавінай аддзел супольна з партыйнымі ўладамі арганізаваў 5-ць акадэмій і 17 дакладаў, а з нагоды другой юбілейнай даты 13 акадэмій, больш 20 вечарынак, 10 дакладаў і фэстын у Семяноўцы. Аддзел дабіўся таго, каб амаль на ўсіх гэтых урачыстасцях выступала эстрада ГП «Лявоніха». Мастацкі калектыў БГКТ з Гайнаўкі падрыхтаваў нават спецыяльную праграму дастасаваную да 50-ай гадавіны Кастрычніка і выступаў таксама на гэтых акадэміях і вечарынах. У 1967 годзе даў ён 15 канцэртаў.

Падчас Дзён асветы, кніжкі і прэсы праўленне аддзела супольна з павятовай бібліятэкай арганізавала ў павеце 18 аўтарскіх сустрэч з паэтамі Алесем Барскім і Віктарам Шведам і 3 спатканні з журналістамі «Нівы».

Асабліва ўрачыста адзначаўся ў Доме настаўніка дзень дзеяча культуры. Многім актывістам БГКТ аддзел культуры павятовай рады нарадовай і праўленне аддзела ўручылі грашовыя і кніжныя ўзнагароды.

Шмат увагі ўдзяляе Гайнаўскі аддзел беларускаму школьніцтву. Супольна з аддзелам асветы аддзел арганізаваў дзве настаўніцкія канферэнцыі. На адной быў праведзены аналіз вынікаў навучання беларускай мовы ў школах, а на другой былі выпрацаваны дырэктывы да навучання роднай мовы ў святле праграм, а таксама была абмеркавана справа адносна забеспячэння школ у метадычныя дапаможнікі.

У Гайнаўскім павеце працуе 17 аматарскіх калектываў з беларускім рэпертуарам, якімі апякуецца праўленне аддзела. Дасылае яно п'есы, песні, арганізуе агляды.

На Гайнаўшчыне стараннем аддзела найбольш прададзена таксама кніжак выданых Галоўным праўленнем. У мінулым годзе продана іх 2155.

Немалая заслуга таксама аддзела, а перш за ўсё Віктара Буры, што ў Гайнаўскім павеце ў мінулым годзе было арганізавана спаборніцтва пошт адносна падпіскі «Нівы». У снежні 1967 года на Гайнаўшчыне было 2732 падпісчыкі нашага часопіса.

Вялікія дасягненні мае аддзел і ў разбудоўванні беларускай арганізацыі. У мінулым годзе было арганізавана 11 новых гурткоў БГКТ, у склад якіх увайшло 282 асобы. На дзень 31.XII. 1967 года на Гайнаўшчыне налічвалася 2076 членаў аб'яднаных у 63 гуртках БГКТ. Паводле плана ГП адносна аплаты членскіх узносаў рэалізавана іх у 80%.

Кожны год аддзел арганізуе навагоднюю ёлку для дзяцей і танцавальныя вечарыны для свайго актыву, вядзе гутаркі па радыёвузлах, вышукоўвае цікавыя экспанаты для беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, арганізуе фотавыстаўку «З жыцця БССР», супрацоўнічае з арганізацыямі і ўстановамі, рэгулярна праводзіць пасяджэнні прэзідыума і праўлення аддзела.

(мх)



У праменнях зімовага сонца.

Фота: Ул. Паўлючук

# СТЫПЕНДЫСТЫ

Што моладзь, якая вучыцца на вышэйшых навучальных установах, атрымлівае дзяржаўныя стыпендыі наогул ведаюць усе. Але нядаўна ўстаноўлена ў Польшчы новую форму стыпендыі — **стыпендыі фундаваныя.** Фундуюць іх рады нарадовыя і паасобныя прадпрыемствы. Могуць іх атрымліваць студэнты ад трэцяга курса. Фундаваныя стыпендыі аднак забавязваюць перш за ўсё пасля заканчэння студыяў да працы ў даным прадпрыемстве ці ва ўстановах данай рады нарадовай.

Агульна беручы справа гэта надта разумная, але як кожная новая справа мае шмат хібаў. У мінулых гадах справа стыпендыі і стыпендыстаў была надта сцэнтралізаваная. Напрыклад, прэзідыум ВРН у Беластоку не меў абсалютна ўплыву на колькасць стыпендыстаў, а ў сувязі з тым і на іх прафесію. Усё ішло з «гары». Не цікавым было і тое, што студэнт часам быў вымушаны браць фундаваную стыпендыю, скажам з Беластока, міма, што не думаў тут працаваць. Вынікі гэтага аказаліся кепскімі. Давялі яны да таго, што, напрыклад, у мінулым годзе трэба было ўпіхнуць каля сто стыпендыстаў на рознага тыпу пасады. Горшай справай было тое, што часта, напрыклад, спецыяліста картографа пасылалася ў школу як выкладчыка геаграфіі, што не прыносіла карысці нікому. Справа аднак ужо змеціцца ад гэтага года.

Зараз справа выглядае інакш. Запатрабаванні прысылаюць паасобныя паветы і прадпрыемствы, а ВРН як каардынатар, маючы адпаведныя ліміты, па меры магчымасці абяспечвае іх. У студзені 1967 года, напрыклад, атрымоўвалі стыпендыі з Беластоцкага ваяводства 64 студэнты, а з гэтага ліку 30 прыпадала на Беластоцкую медыцынскую акадэмію. Агульна беручы ў 1960—66 гадах падпісана 1420 умоў са студэнтамі, а прыступіла да працы 703 стыпендыстаў. Найбольшая іх колькасць гэта настаўнікі (207), спецыялісты сельскай гаспадаркі (195) і медыцынскія работнікі (219). Працягвае навуку 360 чалавек. Не прыступіла да працы 357 стыпендыстаў, з якога ліку 17 пакліканa на навуковых супрацоўнікаў, а 3 звольнена ад абавязку працы ў Беластоцкім ваяводстве.

Усё ж 231 чалавек спецыялістаў, якія не прыступілі да працы, а на якіх чакала беластоцкая гаспадарка — лік не малы. Калі так сталася, дык павінны быць і іх прычыны. У ВРН вылічваюць іх шмат. Адной з асноўных з'яўляецца справа памяшкання. Згодна з урадавымі загадамі стыпендысту, які прыступае да працы, трэба даць памяшканне, а з памяшканнямі справы цяжкія. Іншай прычынай ёсць шлюбы маладых, што з'яўляюцца справай нармальнай, але не толькі. Ёсць многа выпадкаў, што маладыя стыпендысты жэняцца на тое, каб мець права прасіць звальненне ад абавязку працы ў даным ваяводстве. Фундатары стыпендый наракаюць, што ў мінімальнай толькі ступені пра стыпендыстаў дбаюць навучальныя ўстановы. Відавочна гэта ў тым, як сцвярджаюць, што не інфармуюць яны фундатараў аб поспехах студэнта ў навуцы. А адсюль цяжкасці ў «затрудненні», таму што калі студэнт прадоўжыць на год навуку, а ў прадпрыемстве ёсць вольны штат спецыяліста, камплікуе гэта нават прадукцыю. З боку прадпрыемстваў і установаў таксама няма адпаведных кантактаў са стыпендыстамі, а тыя, якія ёсць, абмяжоўваюцца пераважна да формы пісьмовых кантактаў.

Многія справы стыпендыстаў вырашаны. Вырашана, напрыклад, справу памяшканняў. На чацвёртым курсе студэнт стыпендыст можа атрымаць ад фундатара пазыку і запісацца ў «мешканёвую» спулдзельню. Апрача таго, калі нельга стыпендысту запэўніць памяшкання, выплачваецца яму па 300 злотых дадатку за аплочванне кватэры.

(Працяг на стар. 4)




# МАЯ МОВА

Ў добры час, на ўлонні вясковым,
дзе вадзіца крынічная б'е,
навучыўся я матчынай мове
і задуманых песень яе.

Многа ёсць недасягнутых скарбаў,
яшчэ болей — прываблівых мар.
Я яе ні за што не аддаў бы,
бо яна найвялікшы мой скарб!

Яна гойдае спевам калыску,
літасціва шчабеча ў бядзе,
на ёй песні складае вятрыска
ў неспакойны разбуджаны дзень.

Мая мова не знае змярканняў
ад маленства да старасці лет,
буду песціць яе, што каханне,
разглядаць, як чароўны букет.

Можа мовы чужой навучуся,
каб суседзяў гасцінна вітаць,
але толькі на ёй, беларускай,
буду людзям аб долі пяяць.

Мая мова, як шчасце на вуснах,
хваляванне гарачы прыбой,
можа быць на чужой засмяюся,
ўсё ж заплачу з тугі на сваёй.

**Ларыса Геніюш**



# ВІЗІТ У ГАЙНАЎСКІМ ЛІЦЭІ

На гэты раз не будзем пісаць аб афіцыйным візіце гасцей, якія часта наведваюць гайнаўскі беларускі ліцэй. Ліцэй наведаў зараз журналіст, каб убачыць, як ён выглядае ў звычайны рабочы дзень.

Адбылося тут многа змен на лепшае. Перш за ўсё справа памяшкання. Пасля развязання пачатковай беларускай школы, якая існавала разам з ліцэем, зрабілася ліцэю больш прасторна. Зараз тут навука адбываецца **на адну змену**, што з'яўляецца вельмі карысным, калі возьмем пад увагу пераважаючую колькасць моладзі, якая сюды даязджае. Вельмі істотнай справай у дыдактычным працэсе ліцэя з'яўляюцца новаабсталяваныя кабінеты. Даволі добра абсталяваны біялагічны кабінет, які вядзе выпускнік гайнаўскага ліцэя настаўнік **Анатоль Скепка,** геаграфічны кабінет пад кіраўніцтвам **Аляксея Сельвесюка**, кабінет практычна-тэхнічных занятkaў, якога вучні самі аднавілі і памалявалі пад кірункам настаўніка **Анатоля Корзуна,** таксама выпускніка гэтага ж ліцэя.

Аднак дзякуючы вялікай заангажаванасці і супольным намаганням настаўнікаў фізкультуры **Зоі Колпа і Мікалая Врублеўскага** гайнаўскі беларускі ліцэй ганарыцца развіццём **спорту**. Зараз каманда валейбалістак у складзе: **Ольга Кендысь, Вера Ціханюк, Валя Карзуновіч, Вера Аляксеюк, Марыя Іванюк, Гэлена Анхімюк, Леаніда Лясота і Ольга Зубрыцкая — гэта наймацнейшая каманда валейбалістак юньёрак у Беластоцкай акрузе.** У мінулым годзе ігралі яны як **«млодзічкі»**, здабываючы кубак куратара і чэмпіянат у ваяводстве. На агульнапольскім чэмпіянаце прайгралі ў паўфіналах толькі з Жырардовам, чэмпіёнам Польшчы ў гэтай галіне. Дзяўчаты надта амбітныя (як і іх настаўнікі) і маюць не толькі ахвоту але і надзею здабыць чэмпіянат Польшчы, пакуль што іграючы ў акруговай лізе. Рыхтуецца і папаўненне. Другая каманда валейбалістак — «млодзічкі» — зараз знаходзіцца сярод трох найлепшых каманд на кубак куратара. Крыху інакш справа выглядае з хлопцамі. Тут меншыя дасягненні, але толькі таму, што іх мала і няма занадта з каго выбіраць. Аднак і каманда хлопцаў ужо знайшлася ў фіналах на кубак куратара. Школа кожны год прыймае ўдзел у спартакіядзе, займаючы агульна II месца. Справа ў тым, што беларускі ліцэй не мае спартыўнай пляцоўкі і таму лёгкая атлетыка выглядае не зусім добра, але гэта ўмовы аб'ектыўныя, аб якіх

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Камэнтары • Весткі

## СВЕТ

### СЛОВЫ І ПРАКТЫКА

Генеральны сакратар ААН У Тан выказаў перакананне, што ў 2 да 3 тыдняў пасля спынення бамбардзіровак ДРВ дойдзе да сур'ёзных мірных перагавораў ва В'етнаме. Шэф дэлегатуры ДРВ у Парыжы ў часе інтэрв'ю для французскай тэлевізіі яшчэ раз пацвердзіў, што пасля спынення бамбардзіровак і іншых ваенных дзеянняў супраць ДРВ, наступяць перагаворы.

Аднак нішто не паказвае на тое, каб Злучаныя Штаты былі гатовымі распачаць гэткую мірную ініцыятыву, калі верыць некалі гарачым запэўненням Джонсана, такую доўтачаканую. У сваім пасланні аб стане дзяржавы Джонсан заняў двухзначнае становішча. «Прапанова Ханой з'яўляецца прадметам доследаў». Урад ЗША хоча ўпэўніцца, ці яна «шчырая», і згары быць пэўным, што мірныя перагаворы выйдуць па яго думцы. Іншымі словамі гаворачы, урад ЗША гатовы толькі тады сесці за стол перагавораў, калі наперад атрымае залог капітуляцыі праціўніка...

Гэта абазначае, што мірныя абяцанні Джонсана аказаліся зноў пустым словам.

### СТРАТЭГІЯ

Глыбокае парушэнне выклікалі звесткі ў газеце «Вашынгтон Пост» на тэму новай тэрмаядзернай стратэгіі ЗША. Паколькі амерыканскія ракеты мала дакладныя, каб трапіць у ракетныя пункты праціўніка, стратэгі ЗША пастанавілі «змясціць у спіску бамбардзіровак больш усяго гарады чым ваенныя абсталяванні праціўніка». Гэтыя сенсацыі абвергнуў прадстаўнік міністэрства абароны ЗША. Але назаўтра адзін з выдатных атамных фізікаў у часе лекцыі ва ўніверсітэце пацвердзіў поўнасцю, што на думку амерыканскіх стратэгаў гарады з'яўляюцца лепшымі аб'ектамі «адпужання», чым ваенныя аб'екты, і таму наступіла змена ў тэрмаядзернай стратэгіі ЗША.

### СТРАТЫ Ў В'ЕТНАМЕ

Паводле амерыканскіх даных у 1967 г. ЗША патрацілі ў В'етнаме 9.353 забітых і 62 тыс. раненых г. зн. 15,9% усіх сіл ЗША ў В'етнаме. У 1966 г. — паводле гэтых жа даных, ЗША патрацілі 5.008 забітых і 37.093 раненых г.зн. 11,7%. Ад пачатку вайны амерыканцы падаюць, што патрацілі 15.997 забітых, 99.742 раненых і 878 загінуўшых. Страты растуць міма прадвяшчэнняў Кабот Лёджа са студзеня 1967 г., што будуць паменшвацца.

### ПРАЦЭС У МАСКВЕ

У Маскве адбыўся працэс групы агентаў НТС (Я. Галанскоў, А. Гінсбург, А. Дабравольскі, В. Лашкова). За ўтрымоўванне кантактаў з замежнай антысавецкай арганізацыяй засуджана падсудных ад 7 год да 1 года турмы.

А.К

## БССР

### АРТЫКУЛ

У газеце «Звязда», органе ЦК КПБ, змешчана артыкул — **«Інжынер і філасофія».**

**«Апрача таго, паколькі галоўная задача цяпер выхаванне гарманічна развітага чалавека, інжынер павінен быць носьбітам не толькі тэхнічнай, але і агульнай культуры. Інтэлігентнасць — вось тая якасць, якая так патрэбна нашаму інжынеру. Як вытворчы кіраўнік, як тэхнічны аўтарытэт ён павінен быць і аўтарытэтам у пытаннях культуры, знаўцам законаў грамадскага развіцця»,** — м. ін. напісана ў гэтым знамянальным артыкуле.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

У Мінску пабывала дэлегацыя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Узначальваў дэлегацыю **Гюнтэр Клайбер,** кандыдат у члены германскага Палітбюро, дзяржаўны сакратар па каардынацыі ўкаранення і выкарыстання электроннай вылічальнай тэхнікі.

Нямецкія вучоныя, між іншым, азнаёміліся з дзейнасцю Навукова-даследчага інстытута эканомікі і эканоміка-матэматычных метадаў планавання беларускага дзяржаўнага плана.

### АРЛОЎСКІ

Памёр **К. Арлоўскі,** выдатны чалавек вясковай Беларусі.

З'яўляўся ён старшынёю праслаўленага калгаса ў вёсцы Мышкавічы на Магілёўшчыне. Быў Героем Савецкага Саюза, Героем Сацыялістычнай Працы і дэпутатам Вярхоўнага Савета Саюза ССР.

### ПЕРАДАЧЫ

Сярод многіх перадач Беларускага радыё, прысвечаных 50-годдзю Беларускай Дзяржавы, дзве будуць перадавацца ў эфір кожны тыдзень у пастаянны час. Менавіта: **«Летапіс нашай рэспублікі»** ў кожную суботу а 11 гадз. 30 мінут і **«На юбілейнай хвалі»** ў кожную нядзелю а 13 гадзіне.

Другая з іх будзе трансліравана на вуліцах і плошчах гарадоў і вёсак Беларусі.

### БУКВАР

Беларускае Міністэрства асветы арганізавала конкурс на найлепшы буквар. Журы конкурсу не прызнала першай узнагароды. Другую ўзнагароду атрымаў пісьменнік **А. Клышка,** а трэцюю — настаўніцы **Г. Севярнёва і Р. Жываткевіч.**

### «БУГ»

Брэсцкая тэлевізія перадае штомесяц тэлечасопіс **«Буг».** Мае ён, між іншым, вялікае значэнне для развіцця мясцовага беларускага творчага асяроддзя.

Рэдактарам **«Буга»** з'яўляецца паэт **Міхась Рудкоўскі.**

### ДАВЫДАВА

Камсамольская «Чырвоная змена» апублікавала цікавае апавяданне І. Давыдава — **«Каханне маё хлапечае».**

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ

У многіх мінскіх магазінах, напр. «Сталічны», выкарыстана беларускі нацыянальны арнамент, як аздобны элемент службовага адзення працаўнікоў.

## ПОЛЬШЧА

### НЕАФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта ПАРП у днях 12—14 студзеня знаходзіліся ў Польшчы з неафіцыйным візітам савецкія кіраўнікі: **Леанід Брэжнеў, Мікалай Падгорны і Аляксей Касыгін.**

У сяброўскай сустрэчы з імі ўдзельнічалі: **Уладзіслаў Гамулка, Эдвард Охаб, Юзэф Цыранкевіч і Зэнан Клішка,** а таксама савецкі пасол у Польшчы **Аверкій Арыстаў.** Абмеркавана польска-савецкія адносіны і з задавальненнем сцверджана, што палітычнае, гаспадарчае і культурнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і Савецкім Саюзам няспынна пашыраецца і паглыбляецца.

Польскія і савецкія кіраўнікі абмяняліся поглядамі наконт актуальнай міжнароднай сітуацыі і сітуацыі ў міжнародным камуністычным і рабочым руху.

Размовы пацвердзілі поўную згоднасць поглядаў абодвух бакоў адносна ўсіх спраў, якія былі абмеркаваны.

### IV З'ЕЗД ЗМС

У сувязі з рыхтаваннямі да IV з'езда ЗМС Уладзіслаў Гамулка прыняў членаў кіраўніцтва гэтай маладзёжнай арганізацыі.

Гамулка са здавальненнем сцвердзіў, што дасягненні ЗМС-у за апошні перыяд з'яўляюцца значнымі і звярнуў увагу на вялікія заданні гэтай арганізацыі сярод працоўнай і студэнцкай моладзі.

### ХІМІЧНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Мінулы 1967 год быў годам добрага развіцця хімічнай прамысловасці. Не толькі значна павялічылася прадукцыя, але і палепшала яе якасць.

Вартасць прадукцыі ў гэтым годзе дасягне сумы амаль 95 мільярдаў злотых. Хутка будзе развівацца прадукцыя найноўшых сінтэтыкаў — эланы і аніланы.

### ХРЫСЦІЯНСТВА І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

У Варшаве адбыўся польска-савецкі навуковы сімпозіум, арганізаваны Інстытутам рэлігіі і атэізму Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК савецкай кампартыі і Рэлігіязнаўчым Інстытутам Вышэйшай Школы грамадскіх навук пры ЦК ПАРП. У сімпозіуме гэтым апрача спецыялістаў найноўшай гісторыі хрысціянства і рэлігіязнаўства ўдзельнічалі таксама філосафы, юрысты і сацыёлагі.

Прачытана восем асноўных дакладаў. Між іншымі, польскі вучоны **др В. Мыслэк** выступіў з дакладам на тэму ўсходняй палітыкі польскага епіскапата ў 1918—1939 гадах. З савецкіх вучоных **праф. В. Танчэр** з Кіева зрабіў даклад на тэму: **«Праваслаўная царква і фармаванне праваслаўнага народа».**

У выніку сімпозіума ўдакладнена план канкрэтнага супрацоўніцтва паміж польскімі і савецкімі рэлігіязнаўцамі.

(ся)

## ВАЯВОДСТВА

### ВАРШАВА — МОНТЭ-КАРЛА

На досвітку 20 студзеня г.г. з Беластока ў далейшую дарогу рушылі ўдзельнікі міжнароднага аўтамабільнага кросу Варшава — Монтэ-Карла. Сярод іх — чэмпіён Еўропы, паляк Сабеслаў Засада.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы атрымаў ад жыхараў вёсак і пасёлкаў Гайнаўскага павета абавязацельствы выканаць грамадскім чынам у гэтым годзе працу на суму ў 2 мільёны 547 тысяч зл. Як і дагэтуль найбольш грамадскіх чынаў адносіцца да рамонту і пабудовы дарог. Дзякуючы грамадскай ахвярнасці палепшацца дарогі Курашава—Тыневічы, Арэшкава—Перлеева. Кленікі—Гарадочна. У вёсцы Мора сяляне намераны пашырыць школу, на што спатрэбіцца 320 тысяч зл. У Курашаве таксама за кошт 150 тыс. зл. гаспадары хочуць дабудаваць дадатковыя залы пры школе.

### ЛІТАРАТУРНЫ КЛУБ

У Гайнаўцы ўзнік літаратурны клуб, які аб'ядноўвае ўсіх тых, хто прабуе сваіх сіл на літаратурнай ніве. Старшынёю клуба з'яўляецца малады настаўнік Уладзімір Муська. Члены яго прадбачваюць раз у месяц аўтаркія сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі. Клуб знайшоў прытулак у Доме настаўніка.

### ДОМ ПАЖАРНІКА

Жыхары Сямяціч рашылі грамадскім чынам пабудаваць у сваім мястэчку Дом пажарніка. Дзеля гэтага паклікалі ўжо грамадскі камітэт пабудовы, які ўзначаліў старшыня прэзідыума гарадской рады Ян Мантур. Прадбачваецца, што на пабудову гэтага дома спатрэбіцца 2 мільёны 250 тыс. зл.

### МАСЛА З БЕЛЬСКА

Бельская малачарня ў мінулым годзе зрабіла звыш 637 тон масла, з чаго звыш 233 тысячы кг. пайшло на замежныя сталы. Бельскае масла славіцца высокай якасцю.

### МІЛЬЁНЫ Ў КІЛІШКУ

Жыхары горада Сувалкі і Сувальскага павета на працягу 9 месяцаў мінулага года, як падлічыў супрацьалкагольны камітэт, прапілі 43.560.846 зл.

### ЗБОЖЖА

У Гайнаўскім павеце сяляне атрымалі ў мінулым годзе ў сярэднім па 13,5 цэнтнера збожжа з аднаго гектара. Гэта нізкі ўраджай. Перш за ўсё таму, што гаспадары абыякава адносіліся да штучных угнаенняў. Улады планавалі 43 кг. хімічна чыстага рэчыва — NPK — на адзін гектар, а гаспадары астаткова выкарысталі на 10 кг. менш. У гэтым годзе як норму для сялян Гайнаўскага павета ўстаноўлена 55 кг. NPK на адзін га. Трэба спадзявацца, што і ўраджай будзе лепшы.




**NIEDZIELA, 28.I.**

9.20 Program dnia. 9.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Czynniki wpływające na rentowność trzody chlewnej''. 10.00 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.15 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' (Berlin). 10.45 ,,Maruderzy'' — film (,,Uciekinier''). 11.15 PKF. 11.25 ,,Ich dwoje'' — film bułg. 11.40 Dziennik. 12.00 Turniej Trzech Skoczni. II Konkurs Skoków Narciarskich o Puchar Beskidów. 14.00 Poranek Wielkiej Orkiestry Symfonicznej PR i TV. 14.40 ,,Przemiany''. 15.05 TV Teatr Lalek: J. Ośnica — ,,Mocny Bartek''. 16.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 18.00 ,,Ludzie i zdarzenia''. 18.15 Film. 18.40 Felieton literacki. 18.55 ,,Zbrodnia lorda Artura Savillea'' — film TVP (,,Opowieści niezwykłe''). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.30 ,,Porada parodystów''. 20.55 ,,Fort się broni'' — film fab. USA. 22.15 ,,Niedziela Sportowa''.

**PONIEDZIAŁEK, 29.I.**

9.50 Transmisja z otwarcia IV Zjazdu Związku Młodzieży Socjalistycznej. 12.00 Przerwa. 15.15 Koncert popularnej muzyki w wyk. Orkiestry Wszechzwiązkowego Komitetu Radia i Telewizji w Moskwie. 16.00 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 ,,Kno Ptyś''. 17.15 Teatr Młodego Widza: Carson MC Cullers: ,,Dudek''. 17.35 TV Magazyn Postępu Technicznego. 18.05 ,,Spacerkiem po kinach''. 18.35 ,,Na wyspie Barsa Kelmes'' — film radz. 18.50 ,,Azymut''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: E. Morris — ,,Drewniany talerz''. 21.35 ,,Dobry wieczór, jak minął dzień''. 22.05 Dziennik.

**WTOREK, 30.I.**

8.40 ,,Nieustannie w walce'' — film TV CSRS cz. II (,,Sieci Saturna''). 9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: Molier — ,,Skąpiec''. 10.25 Przerwa. 11.00 Dla szkół (kl. IV) ,,W Puszczy Białowieskiej''. 11.30 Przerwa. 12.30 i 16.20 Przysposobienie Rolnicze: ,,Nawozy fosforowe''. 13.05 Przerwa. 14.00 Turniej Trzech Skoczni — III konkurs skoków o Puchar Tatr. 16.15 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Fizyka na piątkę''. 17.30 Dla młodych widzów: ,,Zima w obiektywie'' (III). 17.50 ,,Nie tylko dla pań''. 18.10 ,,Pstrągi'' — film CSRS. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 ,,Giełda Piosenki''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Tytuł naukowy''. 20.35 ,,Nieustannie w walce'' — film TV CSRS (cz. II) (,,Sieci Saturna''). 21.45 ,,Rozmowy o książkach''. 22.00 Film rozrywkowy. 22.15 Dziennik.

**SRODA, 31.I.**

10.00 ,,Plany Bruce'a Bortingtona'' — film (,,Sherlock Holmes''). 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: ,,Tarcie pożyteczne i szkodliwe''. 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Chemia — ,,Sól kamienna''. 13.15 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 PKF. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Zabawy z wyobraźnią''. 17.20 Da dzieci: ,,Bolek i Lolek na wakacjach'' — film. 17.30 ,,Telekram''. 17.40 ,,Ruch oporu w sztuce'' — film dok. wł. 17.55 ,,Pod słońcem Inków'' — film Tele-Aru. 18.10 Wszechnica TV: ,,Dlaczego jesteśmy inni'' (,,W pracowniach polskich uczonych''). 18.40 ,,Wieniawski 67''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Tańczą i śpiewają ,,Rzeszowiacy''. 20.25 ,,Plany Bruce'a Bortingtona'' — film (,,Sherlock Holmes'') (Katowice). 21.15 ,,Światowid''. 21.45 Studio 63: ,,Telepatrzydło Pana Prusa''. 22.35 Dziennik.

**CZWARTEK, 1.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Język polski: B. Prus — ,,Anielka''. 10.25 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.05 ,,Na morskich szlakach''. 18.30 ,,Z kamerą po świecie''. 18.45 ,,W rytmie walca''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Kolejarska zima''. 20.35 ,,Wieczór przy kominku'' scen. i prow. K. Rudzki. 21.10 ,,Oczy świadka'' — film fab. fr. 22.25 Dziennik.

**PIĄTEK, 2.II.**

10.00 ,,Wielka wojna narodowa'' — film fab. radz. 11.40 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Spotkanie z Cejlonem'' — film (,,Wielka przygoda''). 17.45 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Wszechnica TV: ,,Przed milionami lat'' cz. II. 19.00 ,,Wielokropek''. 19.15 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Losy miasta'' — rep. film. 20.20 Teatr TV: J. Zieliński — ,,Nie będzie zwycięstwa, generale''. 21.30 ,,10 minut recenzji''. 22.10 Dziennik.

**SOBOTA, 3.II.**

9.45 ,,Podróż w kwiecień'' — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia — ,,Na stepach''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia — ,,Ryby''. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 TV Kurs Rolniczy: ,,Pytania i odpowiedzi''. 16.15 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.25 ,,Program Tygodnia''. 16.40 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Budujemy nowy dom...'' 17.45 ,,Warszawa, ja i ty''. 18.10 ,,Wieczorne rozmowy''. 18.30 ,,Dziesięciolecie telewizyjnych programów rozrywkowych'' (Helsinki). 19.20 ,,Dobranoc'' 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Pegaz''. 21.00 Festiwal Piosenki w San Remo. 22.10 Dziennik. 22.25 Wiadomości Sportowe. 22.35 ,,Strzelajcie do pianisty'' — film fab. fr.




**Piątek, 26 stycznia**

8.00 Program dnia. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla dzieci. 8.30 ,,Kłos''. 9.00 ,,Maskarada''. Film. 14.45 Dziennik. 15.00 ,,Kartki historii''. 15.30 J. ang. dla przedszkolaków. 16.00 ,,Czyny bohaterskie rodaków''. 16.20 Dziennik. 16.30 ,,Ojciec żołnierza''. Film. 18.00 ,,Sztafeta nowin''. 19.00 Mistrzostwa Europy jazdy figurowej na lodzie.

**Sobota, 27 stycznia**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Pragram rozrwykowy. 8.30 J. ang. dla przedszkolaków. 9.00 Film animowany dla dzieci. 9.30 ,,TV mecz piłkarski''. ,,Niemen'' (Grodno). 10.00 Film dla dzieci. 11.30 Komentarz międzynarodowy. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Szkatułka Muzyczna. 13.45 Spotkanie z redakcją białoruskiego miesięcznika literackiego ,,Połymia''. 14.45 Dziennik. 15.00 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie. 16.15 Klub Filmowy. 17.15 Kronika Półwiecza: ,,Rok 1962''. 18.10 Laureaci Nagrody państwowej BSRR. 18.30 ,,Czas''. 19.00 Mistrzostwa Europy jazdy figurowej na lodzie.

**Niedziela, 28 stycznia**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,Nowe książki dla młodzieży''. 8.20 Filmy festiwalu filmów amatorskich w Moskwie. 9.10 Dla uczniów. 10.10 ,,Na granicy półwiecza''. 10.30 ,,Weseli rybacy'' Film. 11.00 ,,Powołana przez rewolucję''. 11.30 Da żołnierzy. 12.00 Telewizja barwna. 13.15 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie. 14.30 ,,Klub wiejski''. 15.15 ,,Siedem dni''. 16.00 Mistrzostwa Europy jazdy figurowej na lodzie. 18.30 Kronika Półwiecza: ,,Rok 1963''. 19.30 ,,Przygody Gustawa''. Film animowany. 20.30 W eterze — ,,Młodość''. 21.30 Muzyka na dobranoc.

# У ГОНАР ВЯЛІКАЙ ВУЧОНАЙ




Выстаука, прысвечаная Марыі Складоўскай-Кюры.

Грамадскасць Савецкай Беларусі, як і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва, адзначыла 100-годдзе з дня нараджэння Марыі Складоўскай-Кюры, выдатнай жанчыны — вучонага, якой чалавецтва абавязана адкрыццямі ў галіне хіміі і фізікі, якія паклалі пачатак новай эры — стагоддзю выкарыстання атамнай энергіі.

16 лістапада ў актавай зале Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ул. І. Леніна адбыўся вялікі вечар, прысвечаны гэтай знамянальнай даце. Яго арганізавалі Беларуская нацыянальная камісія ЮНЭСКА. Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з заграніычнымі краінамі, Інстытут ядзернай энергетыкі АН БССР, Беларускай ордэна Працоўнага Чырвонага Знамя дзяржаўны ўніверсітэт імя Ул. І. Леніна.

У прэзідыуме вечара выдатныя вучоныя, выкладчыкі вышэйшых навучальных установ, грамадскія дзеячы. Прарэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ул. І. Леніна, прафесар Леанід Валодзька, адкрываючы вечар, сказаў: «Марыя Складоўская-Кюры з'яўляецца сімвалам усіх тых гуманных ідэалаў, да якіх імкнуцца прагрэсіўныя людзі навукі, бо навука па свайму духу глыбока інтэрнацыянальна. Вялікае імя Марыі Складоўскай-Кюры належыць польскаму народу, французскай і сусветнай навуцы, усяму чалавецтву».



Вечар адкрывае прафесар Л. Валодзька.



Людміла Саковіч.

Прысутныя на вечары з цікавасцю праслухалі даклады рэферэнта Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР Людмілы Саковіч «Жыццё і дзейнасць Марыі Складоўскай-Кюры», лаўрэата ленінскай прэміі, акадэміка АН БССР Андрэя Красіна «Роля атамных электрастанцый у развіцці сучаснай энергетыкі», прафесара Ільі Саламатава «Радыёактыўная хімія».

Гаворачы аб значэнні навуковых адкрыццяў Марыі Складоўскай-Кюры, акадэмік Андрэй Красін падкрэсліў, што яе імя з удзячнасцю і пашанаю вымаўляецца вучонымі розных галін ведаў, таму што адкрыццё радыёактыўнасці стварыла цэлую эпоху ў навуцы.



Андрэй Красін.

У файэ залы экспанавалася кніжная выстаўка, а таксама вялікая фотавыстаўка аб жыцці і дзейнасці Марыі Складоўскай-Кюры, падрыхтавана польскай нацыянальнай камісіяй па арганізацыі святкавання юбілею Складоўскай-Кюры ў Польшчы і Таварыствам польска-савецкай дружбы.

Беларускае радыё і тэлебачанне арганізавалі некалькі перадач аб Марыі Складоўскай-Кюры, газеты друкавалі артыкулы аб яе навуковых адкрыццях.

**В. Чарняўская**



У зале вечара.

# СТРАХАВАННЕ АД ЦЫВІЛЬНАЙ АДКАЗНАСЦІ

Калі здарыцца дарожны выпадак, то той, хто стаўся яго прычынаю, паносіць дзве **адказнасці: карную і цывільную.** Аказваецца, што карная адказнасць бывае часта больш лёгкай ад цывільнай. Справа аднак у тым, што гэтыя абедзве адказнасці найчасцей выступаюць у адным здарэнні. Цывільная адказнасць гаспадароў у дарожных выпадках палягчае з аднаго боку на аплочванні страт, якія панесла пашкадаваная асоба, а з другога боку — на выраўнанні ўсялякіх патрачаных ёй карысці, якіх магла б спадзявацца, калі б ёй не зроблена страт. Найчасцей стратамі такімі бываюць: няўмысная смерць чалавека, калецтва звязанае з утратай здароўя, сапсаванне чужой уласнасці і т.п.

Дыяпазон адшкадаванняў у цывільнай адказнасці за страты нанесеныя чужым асобам надта шырокі і можа так здарыцца, што можа зусім пахіснуць фінансавую раўнавагу адказнога за выпадак, а перш за ўсё, у выпадках смерці або калецтва, калі ёсць абавязак плаціць пажыццёвую пенсію пашкадаванаму або яго сям'і.

Матацыклісты або іншыя ўласнікі ўсялякіх рэестраваных сродкаў транспарту з цывільнай адказнасцю не маюць большых клопатаў, таму што згодна з правам вымушаны яны плаціць за гэта страхаванне ў ПЗУ. А што з іншымі?

Аказваецца, што ўсе іншыя, хто карыстаецца дарогамі, у тым выпадку **гаспадары-вазакі і тыя, хто займаецца гадоўляй, раверысты і пешаходы могуць страхавацца** добраахвотна па поваду вядзення гаспадарства. Такое страхаванне разцягваецца не толькі на страты, якія яны нанясуць каму-небудзь на дарозе, але **таксама з прычын выконвання прафесіі гаспадара, уладання і карыстання сельскагаспадарчымі машынамі, будынкаў, хатняй жывёлы, птушак, пасекі, ровераў, вядзення гаспадарчым спосабам будаўляных прац, выконванні імі самімі і іх маладетнімі дзяцьмі розных дзеянняў у прыватным жыцці.**

Якія абавязкі бярэ на сябе ПЗУ? Калі падпішацца страховачную ўмову, дык ПЗУ прыймае на сябе абавязак плаціць за «рольніка» адшкадаванне, за кожную выкліканую ім страту ў дарожным выпадку, суму велічынёй да **1 мільёна зл**. Складчына за добраахвотнае страхаванне сягае ў год ад **40 да 150 зл.,** а гэтая сума залежыць ад велічыні гаспадаркі ў гектарах.

Справа нібы звязана з грашовымі выдаткамі, але пакуль падумаеце аб грошах, пералічыце, колькі здарылася выпадкаў у вашай вёсцы. Усё часцей адны да другіх ходзім малаціць машынамі, дапамагаем, а пры гэтым здараюцца і выпадкі і калецтвы, за што права наказвае плаціць. А ў такіх выпадках нават 150 зл. у год акажуцца цудоўнымі. А калі выпадкаў не будзе, дык яшчэ лепш, за што не шкада і 150 зл.

(ак)

СУЧАСНАЯ МІФАЛОГІЯ

# ЖАНІЦЬБА, ЯКАЯ АДБУДЗЕЦЦА

Дзяўчына, як дзяўчына: прыгожая, бо маладая. Прыгожая яна, бо добра ўбраная і модна прычэсаная. Гаворыць прыемна, з вясёлым настроем. Шануе грошы, але не скупая. Мілая дзяўчына. І разумная, бо працуе ў кантролі... гм, забыў, у якім кантролі працуе яна? Зрэшты, важнае тое, што кантралюе яна, а не яе! Разумная дзяўчына.

Аб дзяўчыне прыемна гаварылі за святочным сталом. Яе не было — выпіла з усімі першую чарку, устала, падыйшла да шафы, адчыніла шафу, дастала з шафы шыкоўнае футра, апранула на сябе футра з элегантнаю нядбайнасцю, успульхніла прычоску, сказала, што ёй час ехаць, выйшла ў кухню.

Усе глядзелі на яе.

А ў кухні ўжо маці з пакункамі — штосьці нашаптала дочцы і крыкнула на бацьку, што сядзеў за сталом. Бацька сказаў, што зараз ідзе, устаў з-за стала. Павінен праводзіць дачку да аўтобуса, аўтобусны прыпынак за Малахвеевым гумном. Выйшлі, а маці вярнулася да гасцей. Аб дзяўчыне гаварылі прыемна.

Гаварылі і аб хлопцу. Немалады ён, але інжынер. І магістар! Зарабляе чатыры восемсот, бо ён кіраўнік чагосьці вельмі важнага. Сам міністр падаў яму руку, а жонка дырэктара папрасіла быць кумам.

Гаварылі аб хлопцу, гаварылі аб дзяўчыне. Хлопца не было, а меў напэўна прыехаць на свята. Штосьці сталася? Штосьці надта важнага і службовага...

Гаварылі толькі аб хлопцу і дзяўчыне, дзяўчыне і хлопцу. Усім было ясна, што сваты не ўдаліся, хлопец не прыехаў. Чаму не прыехаў? Думалі аб гэтым бацькі дзяўчыны і бацькі хлопца, і госці. Усім было ясна, што бацькі дзяўчыны хочуць мець за зяця інжынера, а бацькі хлопца хочуць мець прыгожую і разумную нявестку. Па тое і гэты святочны стол — кожнае свята — гэта торг. Торг не ўдаўся і, каб не было відаць гэтай няўдачы, усе гаварылі аб хлопцу і дзяўчыне. Гаварылі як аб чымсьці радасным, што ўжо сталася.

Дзяўчына ніколі не бачыла хлопца, а хлопец яе. А бацькам яе і бацькам яго па-праўдзе ўсё роўна: не прыехаў хлопец гэтым разам, прыедзе другім разам. Яны (і падвыпіўшыя госці) пачалі гаварыць аб тым, як пажаніць дзяўчыну з хлопцам — і як пажэняць іх?!

Бо:

хлопец разбэсціўся, халера, да таго, што не хапае яму нат' «пэнсыі»; эх, якая там «пэнсыя» — тысяча васемсот злотых (трэба махляваць, што чатыры восемсот); мае ўжо трыццаць год і цяжка ажаніць яго; як ажэніцца, мо' абціхне і стане чалавекам. Гэта таемныя думкі бацькоў хлопца. Пра ўсё гэта патаемна ведаюць і бацькі дзяўчыны.

Але яны думаюць:

дзяўчыну час выдаць замуж, бо станецца бяда; яна адна ў Беластоку; хто толкам можа ведаць, што яна там вычаўпае, дамо грошай на кватэру, бацька хлопца даложыць, чорт не возьме, нябедны; выйдзе замуж за інжынера; будзе «пані інжынерша».

— Добра будзе нашым дзецям! — сказалі бацькі дзяўчыны. Яны першыя закончылі думаць, аб дочках многа не думаюць.

— Добра! — пацвердзілі бацькі хлопца.

І зноў гавораць.

Жэняць хлопца з дзяўчынаю. Грошай дадуць бацькі, бацька і маці дзяўчыны астатнія грошы аддадуць — дваццаць, трыццаць тысяч. Столькі, колькі трэба, каб магчы гаварыць: сын наш інжынер, зяць наш інжынер, дачка наша замужам за інжынерам. Ужо бачаць, як у куце ўбогага пакоя смяецца фатаграфія маладой пары. Але бацькі не заўважаць, што гэта ўсмешка **абыякавая, прытворная.**

**К. Янкоўскі**

# Вёска ля шашы

Ля шашы з Бельска ў Сямяцічы зараз за мястэчкам Боцькамі размясцілася вёска Андрыянкі. Андрыянкі размешчаны ўжо на беларуска-польскім этнічным пагранічч; хаця ў вёсцы ёсць нямала беларусаў, мала хто тут аднак ведае аб існаванні «Нівы». У школе, зразумела, як і ў іншых вёсках этнічнага пагранічча, беларускай мовы не навучаецца і таму перад усім няма зацікаўлення беларускім літаратурным словам.

Пагаворым тады аб звычайных штодзённых справах Андрыянак. Андрыянкаўскую штодзённасць таксама акрэслівае сітуацыя пагранічча. Кругом тут пераважна вёскі шляхецкія; заўсёды былі яны багацейшымі — лепш забяспечанымі ў зямлю, лясы ды сенажаці. Андрыянкі — вёска ў цэласці сялянская. Андрыянкаўскія сяляне імкнуцца зараз рознымі спосабамі дагнаць ва ўзроўні гаспадаркі і ў жыццёвым узроўні сваіх суседзяў — шляхціцаў.

На этнаграфічным пагранічч асабліва цяжкімі былі для беларускага насельніцтва гады зараз пасля другой сусветнай вайны. Банды рэакцыйнага падполля праводзілі тут асабліва ярасна сваю антыбеларускую палітыку. У выніку беларускія сямействы пачалі масава выязджаць у Савецкі Саюз. З Андрыянак выехала каля 30 сямействаў. Асталіся па іх пустыя забудаванні і немалы абшар незагаспадараванай зямлі, якую пераняла дзяржава на сваю ўласнасць. Калі ў 1957 годзе адбывалася ў вёсцы камасацыя, зямлю раскупілі гаспадары цаною па 800 злотых за гектар. Такім чынам распродана ў Андрыянках каля 300 гектараў зямлі. Андрыянкі хутка пачалі багацець, канкуруючы з суседнімі шляхецкімі вёскамі. Засноўваецца тут сельскагаспадарчы гурток, у які ўваходзяць амаль усе андрыянкаўскія гаспадары. Гурток мае ў распараджэнні вялікую колькасць featureрознага тыпу машын, у гэтым годзе будзе ў Андрыянках заснавана машынова-трактарная база.

Зараз у Андрыянках жывуць больш-менш напалам беларусы і палякі. І адны, і другія прымаюць аднолькавы ўдзел у гаспадарчым і культурным развіцці сваёй вёскі. Культурнае развіццё — гэта перад усім святліца, або, як цяпер называюць — клуб. Андрыянкі не мелі клопатаў, якія мае большасць нашых вёсак: дзе знайсці памяшканне на святліцу, або клуб? Трэба было толькі адпаведна дастасаваць да гэтых мэтаў адзін са стаяўшых тут пустых будынкаў. Зроблена гэта грамадскім чынам, боцькаўскі ГС забяспечыў памяшканне неабходнай мэбляй. наладжана кіёск з каваю ды рознымі дробязямі і вывешана пры ўваходзе зялёную шыльду: «Клуб гаспадара». У клубе знайшоўся тэлевізар, які раней вёска атрымала, як падарак за тэрміновае выкананне збору сродкаў на Грамадскі фонд адбудовы сталіцы і краіны.

Такім чынам Андрыянкі можна было б назваць адной з больш развітых нашых вёсак і ў гаспадарчым, і ў культурным жыцці. Можна было б назваць, калі б не андрыянкаўская школа. Месціцца яна ў трох — ізноў паслярэпатрыяцыйных — хатах, прычым мясцовая ГРН наймае яшчэ 2 памяшканні ў прыватных гаспадароў. У суме — школа змяшчаецца ў 5 розных будынках. Усе прытым будынкі антысанітарныя, цесныя і неадпаведныя. У 8 класах андрыянкаўскай школы працуе 7 настаўнікаў і вучацца дзеці не толькі з Андрыянкаў, але і з суседніх вёсак, у якіх існуюць толькі IV-класныя школы. Можна ўявіць сабе каардынацыю працы настаўнікаў і магчымасці ўвядзення сучасных прагрэсіўных метадаў навучання пры такіх умовах.

У планах павятовых улад напісана, што школу ў Андрыянках пачнуць будаваць у 1970 годзе. Добра і гэта. У 1962 пабудавана ў Андрыянках прыгожую, шыкоўную агранамоўку. Усім ясна, што агранамоўка рэч добрая і патрэбная для вёскі. Не сказаў бы, аднак, што патрэбная яна ў Андрыянках больш, чымсьці школа.

**Ул. Паўлючук**




ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

**ПЛАН ПРАЦЫ НА III КВАРТАЛ:**

28 студзеня: Эдзі Агняцвет «Яблыня»; 4—11 лютага: Міхась Лынькоў «Астап»; 18 лютага: Алесь Бачыла «Песня пра герояў Брэсцкай крэпасці»; 25 лютага: Я. Садоўскі «На радзіме Фелікса Дзяржынскага»; 3 сакавіка: А. Дорахаў «Усмешкі маці»; 10 сакавіка: Кандрат Крапіва «Сава, Асёл ды Сонца»; 17 сакавіка: Х. Ізкарай «Дзеці паўстанцаў»; 24 сакавіка: Ніл Гілевіч «Мара Скарыны»; 31 сакавіка: М. Арэхва «У заходнебеларускім рэвалюцыйным падполлі»; 7 красавіка: Янка Купала «Наша моладзь»; 14 красавіка: Янка Купала «Заўсёды наперад».

**ЯБЛЫНЯ**

Зіма ў разгары.
Сцюжа. Іней.
І вецер з поўначы прыбег.
На дрэвах —
бэзавы, і сіні,
І белы, і ружовы снег.
У футра цёплае адзета,
У садзе яблыня стаіць.
Яна стамілася за лета,
Напрацавалася
і спіць.
Не чуе песенькі сініцы,
Не чуе гоману вятроў.
Ёй сёння спелы жнівень сніцца,
Яго гарачая любоў.
Ёй сніцца яркі дзень высокі,
Паветра жнівеньскага пах —
Сваіх дзяцей чырвонашчокіх
Яна трымае на руках.

**Эдзі Агняцвет**

1. Прасачыце, пры дапамозе якіх мастацкіх сродкаў аўтар стварае вобраз зімы.
2. Выпішыце словы, якія абазначаюць у вершы колеры.

**Біяграфічная даведка**

Эдзі Агняцвет. — Беларуская паэтэса нарадзілася ў 1916 годзе ў сям'і служачага. Піша для дзяцей.

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## У БЕЛАСТОЦКІМ АДДЗЕЛЕ

Дзве залы памяшкання ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку былі вельмі прыгожа прыбраны ў сувязі з навагоднім балем. Шмат тут грамадскай працы ўлажыў настаўнік Янка Дзун, якому гарадскі аддзел БГКТ вельмі ўдзячны.

Гэтая цікавая дэкарацыя сцен і паталкоў дадавала навагодняга настрою і 13-га студзеня на балі актыву гарадскога аддзела, а таксама на навагодняй ёлцы для дзяцей 14 студзеня.

Больш 70-ці дзяцей весела правяло нядзельны дзень у Беларускім таварыстве. Пачаткова былі паказаны дзіцячыя фільмы — байкі, потым спевы, танцы і гульні каля ёлкі, пазней супольна чай з пончыкамі, а затым найпрыгажэйшае — дзед Мароз уручыў дзецям багатыя падарункі. Многія дзеці чыталі вершы.

## НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

13-га студзеня адбылася танцавальная вечарына ў Доме настаўніка, арганізаваная Гайнаўскім аддзелам БГКТ. Іграў Віталіс Макаць.

14-га студзеня дзеці членаў БГКТ, 260 асоб, пад кіраўніцтвам настаўнікаў беларускага ліцэя весела гулялі на навагодняй ёлцы. Дзед Мароз усім дзецям уручыў падарункі. (мх)

## БАЛЬ У БЕЛЬСКУ

Ужо сталася традыцыяй, што Бельскі харавы калектыў 13 студзеня пачынае карнавал навагоднім балем. У гэтым годзе, так як і ў мінулых, адбыўся ён у ратушы **дзякуючы гасціннасці Прэзідыума Гарадской рады нарадовай**, якая з'яўляецца ўладальнікам памяшкання.

Баль быў урачысты і вельмі весела і культурна працягваўся аж да раніцы. Пажадаў далейшых поспехаў харыстам і іх сем'ям старшыня Аддзела БГКТ **Уладзімір Раеўскі.** Трэба падкрэсліць, што трупа членаў харавога калектыву пераадзетая ў традыцыйнае, а звязанае са святкаваннем Новага года на Бельшчыне, адзенне надала вясёласці не толькі на месцы, але і ў наведаных іншых танцавальных вечарынах, якія адбываліся ў той час у Бельску.

14 студзеня была наладжана ёлка дзецям членаў і актыву БГКТ, а дзед Мароз уручыў ім падарункі. (ак)

# СТЫПЕНДЫСТЫ

(Працяг са стар. 1)

Усё ж насоўваюцца новыя прапановы. Гэта добра, што амаль уладжана памяшкальныя справы, але зараз неабходна ўладжваць справы яшчэ больш важныя — людскія. Неабходна ўцягваць студэнтаў стыпендыстаў у асяроддзе, дзе яны будуць працаваць. Ці ёсць каму весці такія кантакты? Па-мойму, ёсць усюды. Кантакт павінен быць жывы, а не толькі пісьмовы, а весці яго павінны павятовыя а нават грамадскія рады нарадовыя, праўленні і гурткі ЗМС ці ЗМВ. У сувязі з тым, што кожны год не выкарыстоўваецца лімітаў неуфундаваных стыпендый (у 30%), хіба не дрэнным было б, каб аб гэтай форме стыпендый інфармаваць ужо ў апошніх класах сярэдняй школы. Аб тым, што ў тое прадпрыемства ці мясцовасць мае прыйсці за 2—3 гады інжынер, лекар ці настаўнік, павінен ведаць шырокі круг людзей. Можа здарыцца, што хто-небудзь захоча індывідуальна весці са стыпендыстам карэспандэнцыю.

Усё гэта справы нібы дробныя, але неабыякавыя, калі разыходзіцца пра дапамогу маладому спецыялісту. Яны часта на многа важнейшыя ў далейшым жыццёвым шляху, чым грошы. А, на жаль, спроб такога роду кантактаў вельмі мала.

**А. Лабановіч**






Мураўскія ўрэшце пакінулі зямлянку і пасяліліся пад страхой драўлянага доміка. Ад усяго адмаўляліся, каб пабудаваць гэты домік. Нават уласнымі рукамі на двух пазычаных калёсах вазілі броўны з бору, які рос за Орляй у 5 кіламетрах. Косця папіхаў, а бацька цягнуў. За бедныя былі, каб трымаць каня.

Летам 1923 года мама рашуча заявіла.

— Косця, ты сёлета ў школу не пойдзеш. Ты ўжо дужы, 13 год закончыў, бацьку трэба дапамагчы. Хай малодшыя крыху павучацца. Я ў Вайштэйна была, прасіла, каб у кафлярню цябе прыняў. Гаварыў, каб ты прышоў. Мільён марак плаціць табе будзе за днёўку. Штопраўда, нават курыцу на гэтыя грошы не купіш, аднак усё ж нейкая падтрымка для нас будзе.

Кастусь з задавальненнем прыняў гэты загад бацькоў. А маці не прадчувала, што яе сын змяняе нудную вясковую пачатковую школу на ўніверсітэт рабочай свядомасці.

У вайштэйнавай кафлярні, дзе працавала звыш 50-ці рабочых, дзень працы пачынаўся надосвітку і канчаўся разам з захадам сонца. Рабочыя, вядома, між сабой наракалі на гэтыя парадкі. А Кастусь Мураўскі па нядзелях чытаў газеты. Ведаў тады, што недзе на шырокім свеце людзі ўжо працуюць усяго па 8 гадзін, што нават польскі сейм прыняў быў такую пастанову, каб рабочыя працавалі толькі 8 гадзін. Аднак як прымусіць Шмуля Вайштэйна і яго брата — уласнікаў арлянскай кафлярні, каб скарацілі дзень працы?

— Ведаеш што, звярнуўся Кастусь да свайго сябра Грышкі Кубаеўскага, — давай паедзем у Бельск, параімся ў гэтага Петручука. Кажуць, што ён рабочым дапамагае, у сацыялістычнай партыі дзеячом з'яўляецца.

— Паехаць можна, — згадзіўся Грышка.

Петручук параіў юнакам, каб яны склалі заяўку аб умовах працы ў арлянскай кафлярні і каб гэтую заяўку падпісалі ўсе рабочыя.

Быў гэта для Кастуся Мураўскага баявы хрэст у яго грамадскай дзейнасці. Паціху, з вуснаў на вусны разам з Кубаеўскім пераказвалі справу сваім сябрам па працы. Усе слухалі з зацікаўленнем. Хто ж бы не хацеў працаваць толькі 8 гадзін ды яшчэ за такую ж самую плату? Марак ужо не было. Пан міністр Грабскі правёў сваю славутую грашовую рэформу, і рабочыя ў Шмуля Вайштэйна атрымоўвалі паўтары залатоўкі за днёўку.

Заяўку падпісалі амаль усе. Пасля некалькіх тыдняў у вайштэйнавай кафлярні з'явілася нейкая камісія. Уласнік кафлярні ледзь не лопнуў са злосці. Аднак мусіў абмежаваць дзень працы да 8-мі гадзін.

Гэта была першая перамога арлянскіх рабочых. Яны паверылі ў свае сілы. Прайшло яшчэ шмат цяжкіх працавітых год.

— Найгорш было, — успамінае Мураўскі, — калі прыходзілася з распаленай печкі выносіць кафлі. У печцы знаходзілася іх звыш 8 тысяч. Усе трэба было вынесці на плечах. А гарачыня у печцы стаяла такая, што валасы на галаве пражыліся. Забойчая работа, за якую гаспадар плаціў па 6—7 злотых на чатырох рабочых. Ды яшчэ пільна глядзеў, каб не разбіць ніводнай кафлі. А калі гэтае камусьці з нас здарылася, Вайнштэйн усё запісваў у кніжку і пасля адлічваў з зарплаты. Гэта называлася ў яго грашовае пакаранне. Яно прымянялася на кожным кроку, амаль штодзень.

Грашовыя пакаранні даводзілі рабочых да злосці. Чулі тады яны ўжо пра забастоўкі гайнаўскіх лесапільшчыкаў і лясных рабочых. У Орлі таксама дзейнічала ячэйка КПЗБ і некалькі ячэек Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. Кастусь Мураўскі быў сакратаром адной з іх.

Сабраліся ў Чорным Бары. Кастусь Мураўскі, Мікалай Несцяровіч, Аляксей і Сяргей Мартыновічы, Аляксандр Кучынскі, Моці Вернік, Грышка Кубаеўскі і яшчэ нехта. У агні пякліся бульбіны. Прыкідваліся пастухамі, але гутарку вялі зусім не пастушкоўскую.

— У Вайштэйна скончыўся запас кафляў, — заявіў Кастусь Мураўскі.

— Відавочна атрымаў ён вялікія заказы, — сказаў Кубаеўскі. — Гоніць прадукцыю, як ашалелы.

— Вось цяпер бы наладзіць вам забастоўку, — запрапанаваў Моця Вернік.

Таварышы рашылі спрабаваць. Праз некалькі дзён у кафлярні паявіліся лістоўкі. Заклікалі рабочых, каб спынілі працу і патрабавалі ад уласніка кафлярні 10-ціпрацэнтавай прыбаўкі да зарплаты і адмены грашовых пакаранняў. Над гэтымі лістоўкамі некалькі ночаў мучыўся Кастусь Мураўскі. Пісаў іх уласнаручна, друкаванымі літарамі, каб не пазналі яго почырку.

Аднаго дня 1933 года рабочыя нармальна з'явіліся на працу, але адказаліся працаваць. Дэлегацыя ад імя рабочых пераказала Вайштэйну іх патра-

## ФАЛЬКЛОР

# ВЯСЕЛЬНАЯ

Васіельечко, прыданечко блудзіт.
У чыстым полі дарожаньку згубіло.
Васіельечко, прыданечко нам Бог даў,
Ні завідуйце добры людзі, будзе і вам.

Ой, харошы наш каравай, харошы,
Бо харошые коровайніцы гібалі.
Ой, удалы наш каравай, удалы,
Бо ўдалые каравайніцы гібалі.

Запісаў ад **Паўла Галубоўскага** з Новага Ляўкова (Гайнаўскі павет) **Янка Цялушэцкі.**

# ВІЗІТ У ГАЙНАЎСКІМ ЛІЦЭІ

**(Працяг са стар. 1)**

ведае кожны, хто толькі хоча ведаць. Вучні маюць адноўленую прыгожую гімнастычную залу, дзе адбываюцца заняткі зімою. Каб падкрэсліць веліч спартыўных дасягненняў,



**Заняткі па фізкультуры хлопцаў.**

неабходна яшчэ раз сказаць, што **дабілася іх тая моладзь, якая ў пераважаючай большасці мусіць пагадзіць штодзённае даязджанне з навукай і спортам.** Шчыра віншуем вам, настаўнікі і чэмпіёны!

Міма ўсё яшчэ скромных памяшкальных умоў ліцэй выдзяліў месца на **лекарскі кабінет,** а лечыць гайнаўскіх ліцэістаў таксама былы выпускнік гэтага ж ліцэя **доктар Зіневіч.** У часе візіту ўся моладзь была праслухана лекарам, а падазроных на якія-небудзь хваробы накіравана да лекараў спецыялістаў. На гэтым аднак праца лекара не канчаецца. Прыймае ён актыўны ўдзел у педагагічных радах. Цяжкія памяшкальныя ўмовы не перашкодзілі, каб прыняць сюды **міжшкольны дэнтыстычны кабінет,** і здаецца, што вельмі разумна і карысна, бо моладзь можа і павінна лячыць зубы на месцы, а не прасіць звальнення з урокаў «да дэнтысты».

Моладзь мае тут многія **гурткі зацікаўлення.** Але арганізацыяй, якая карыстаецца найбольшай папулярнасцю і аўтарытэтам ёсць ЗМВ. Школьнае праўленне на толькі мае паважанне ў дырэкцыі, што прадстаўнік школьнага праўлення ЗМВ прыймае ўдзел у стыпендыяльнай камісіі.

— Часам іх ацэнка і веды аб умовах вучня лепшыя ад нашых, — гаворыць дырэктар ліцэя. — Можа гэта і паварот да старога, але такі спосаб лічу вельмі карысным нават з выхаваўчага боку гледжання. А на стыпендыі ў месяц выдаецца ў нас 7.360 зл.

Найбольш радуюць жыццё, хіба не толькі вучняў, 60-ціасабовы хор і эстрадная група з уласным аркестрам. Прытым эстрадная група паклікана не толькі на тое, каб упрыгожваць уласныя вечарыны, але і каб абслугоўваць урачыстасці рознага характару ў т.зв. тэрэне.

Сапраўды хацелася б тут павучыцца.

**А. Карпюк**

фота аўтара



**У дэнтыстычным кабінеце.**

бaванні. Між іншымі пайшоў да яго стары, агульна шанаваны ў кафлярні майстар Грынявіцкі.

— І ты таксама бунтуешся?! — са здзіўленнем запытаў Вайштэйн свайго найбольш даверанага майстра.

— Я не бунтуюся, пане гаспадар, — адказаў Грынявіцкі, — толькі пераказваю пану слушныя патрабаванні маіх сяброў — рабочых.

— Нічога вам не дам! — заявіў уласнік і зараз пабег на пастарунак арлянскай паліцыі. Славілася яна ў наваколлі сваёй суровасцю. Асабліва залез людзям за скуру адзін з іх, служака па прозвішчу Дзюхцярскі. Ён і на гэты раз першы прыбег у кафлярню. Да нічога аднак не ўдалося яму прычапіцца. Рабочыя вялі сябе спакойна, кожны знаходзіўся на сваім месцы працы.

Вайштэйн прабаваў наладзіць брыгаду штрэйкбрэхераў (ламістрайкаў). Па яго закліку з'явілася сям'я Пешчатоўскіх. Трох братоў: Зігмунт, Станіслаў і Антон. Пачалі разгружаць печку з выпаленых кафляў. Не змаглі аднак самі справіцца з усёй работай. А іншыя не пайшлі на заклік фабрыканта.

Так ішлі дні. Урэшце Вайштэйн уступіў. Прыняў патрабаванні рабочых.

Была гэта другая перамога арлянскіх рабочых. Год пазней, пасля другой першамайскай забастоўкі, Кастусь Мураўскі сваю актыўнасць у гэтай барацьбе акупіў доўгімі гадамі турмы, з якой увольнілі яго чырвонаармейцы ў 1939 годзе. Зараз з'яўляецца ён адказным працаўніком грамадзянскай міліцыі з высокім афіцэрскім званнем.

**Віктар Рудчык**

# НАСТАЎНІКАМ - ПЕНСІЯНЕРАМ

Аддзел Саюза польскіх настаўнікаў у Саколцы вядзе сістэматычную працу, калі разыходзіцца аб настаўнікаў — пенсіянераў. Статыстыкі паказваюць, што ў павеце налічваецца іх 33. Частка з іх працуе ў школах, займаючы няпоўныя штаты.

Але не ўсім здароўе і ўзрост дазваляюць працаваць. Пэўная колькасць, напрыклад, настаўнікаў-пенсіянераў не мае нікога з радні, яны адзінокія, а іх пенсіі (старога партфеля) малыя. Іменна гэтымі членамі сваёй арганізацыі перад усім апякуецца аддзел ЗНП. Кожны месяц прыдзяляюцца гэтым людзям дапамогі, якія складаюцца з т.зв. каляжэнскага фонду і фонду аддзела ЗНП. Аддзел пастараўся, каб настаўнікі-пенсіянеры, якія жывуць на вёсках, мелі бясплатныя памяшканні. На Дзень настаўніка апрача кветак і пажаданняў настаўнікі-пенсіянеры атрымоўваюць грашовыя ўзнагароды. Традыцыяй сталася, што кожнага настаўніка ці працаўніка школьніцтва, які адыходзіць на пенсію, вельмі ўрачыста развітваюць.

Здараюцца справы вельмі складаныя. Цяжка хворая настаўніца-пенсіянерка Амелія Л. патрабуе неадкладна крыві. Хворая не мае нікога з радні. Жанчына ў час вайны страціла 3 братоў, а сама ваявала з захопнікамі ў радах партызанкі.

Аддзел выступіў з пісьмом да «Станцыі донараў», каб адтуль прыслалі патрэбную кроў. Адказ быў адмоўны. Дзейнічаць трэба было з хуткасцю маланкі, каб змагацца за жыццё чалавека. Аддзел ЗНП адклікаецца да настаўнікаў. Першымі, хто адклікнуўся на заклік, каб аддаць сваю кроў дзеля ратавання жыцця сяброўкі, былі настаўнікі і працаўнікі школы будаўляных рамястваў у Саколцы: **Станіслава Мякіш, Станіслава Пятроўская, Васіль Кубка і Францішак Цітка.**

Гэта і ёсць велізарная салідарнасць і дбайнасць пра старэйшага члена прафесіянальнай сям'і.

**А. К.**




## ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА АД ПРЫГОННАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ

Прыгоннае права, якое панавала ва ўсёй царскай Расіі, было асноўнай перашкодай у далейшым развіцці сельскай гаспадаркі, прамысловасці, гандлю і культуры ва ўсёй краіне. Яно гамавала сфармаванне больш прагрэсіўнага, у параўнанні з феадалізмам, капіталістычнага грамадскага ладу.

Пад націскам не сціхаючых сялянскіх хваляванняў, якія асабліва ўзраслі пасля паражэнняў, нанесеных царскай Расіі Францыяй, Англіяй і Турцыяй у Крымскую вайну (1853—1856 г.г.), царскі ўрад вырашыў правесці ва ўсёй краіне вызваленне сялянства ад прыгоннай залежнасці. Рыхтаваў ён гэтае «вызваленне» ў сціплым паразуменні з памешчыкамі і на іх карысць.

19 лютага 1861 года была аб'яўлена рэформа, якая ліквідавала прыгонную залежнасць сялян ва ўсёй Расіі.

Паводле гэтай рэформы ў Беларусі было вызвалена ад прыгоннай залежнасці каля 2 мільёнаў памешчыцкіх сялян. Аднак памешчыкі па-ранейшаму заставаліся ўладальнікамі ўсёй зямлі, якая да іх належала перад рэформай. Толькі частку яе — па свайму выбару — яны адводзілі для надзелу сялянам. Пры надзяленні зямлёй памешчыкі захоўвалі пры сабе найбольш ураджайныя землі, сенажаці, лясы, выганы, вадапоі. Сялянам жа выдзялялі вельмі мала зямлі, пры гэтым самай неўраджайнай, запушчанай, невыгоднай. Шмат сялян зямлі не атрымала, не атрымалі яе і тыя з прыгонных сялян, што працавалі і жылі пры панскім двары. За надзелы сяляне мусілі заплаціць вельмі высокую цану і на працягу двух год абавязаны былі па-ранейшаму адрабляць паншчыну і ўносіць чынш.

За памешчыкамі было захавана шмат прывілеяў у дзяржаўных установах і судах.

Але памешчыкі ўжо не мелі права распараджацца асобай селяніна, прадаваць яго або купляць, умешвацца ў сямейныя справы. Сяляне перасталі быць уласнасцю памешчыкаў.

Такім чынам, у выніку рэформы, як пісаў Ул. І. Ленін «сяляне вышлі «на волю» абдзертымі да галечы, вышлі з нявольніцтва ад памешчыкаў у прыгнёт да тых самых памешчыкаў».

Адразу пасля аб'яўлення рэформы сялянам стала ясна, што цар і памешчыкі іх ашукалі. Сяляне адмаўляліся выходзіць на паншчыну. Яны займалі панскія лясы і сенажаці, падпальвалі маёнткі, забівалі памешчыкаў і іх памагатых. У хуткім часе сялянскі рух ахапіў усю Беларусь. Асабліва вялікімі былі хваляванні на Ашмяншчыне, Лідчыне і Навагрудчыне. Там колькасць удзельнікаў паўстання дайшла да 15 тысяч. Сяляне трымаліся моцна, адбілі арыштаваных сваіх сяброў. Супроць паўстаўшых царскі ўрад накіраваў войска, і толькі пад яго націскам паўстанне суцішылася.

Шырокі размах прынялі выступленні на Гродзеншчыне і асабліва на Беласточчыне.

У Беластоцкім павеце паўстаўшыя сяляне царскі маніфест называлі ашуканствам, не выходзілі да працы на панскім полі, адмаўляліся падпарадкавацца загадам духавенства і паліцыі. Так, на вестку аб тым, што царскія чыноўнікі арыштавалі 23 сялян у вёсцы Астраўкі за адмову адрабляць паншчыну, зышлося сюды каля 350 сялян з суседніх вёсак. Абураныя сяляне вызвалілі арыштаваных, а перапалоханыя царскія чыноўнікі ўцяклі ў мястэчка Заблудаў пад ахову войска. На наступны дзень каля тысячы сялян, беларусаў і палякаў, з Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў сабраліся ў Заблудаве. Да паўстаўшых далучыліся мяшчане. За ноч царскім чыноўнікам удалося выклікаць у Заблудаў значную колькасць войска. Паўстаўшыя сяляне былі акружаны, найбольш актыўныя арыштаваны, а каля 150 чалавек па загаду афіцэраў пакарана цяжкімі пабоямі.

Ніколі раней царскі ўрад не распраўляўся так жорстка з сялянамі, як пасля аб'яўлення «волі». Паўстаўшых сялян білі кіямі, арыштоўвалі, высылалі ў Сібір, расстрэльвалі. Аднак сяляне не паддаваліся. Хаця звонку яны як быццам бы і суцішыліся, але ў гушчы сялянскіх мас не патухала нянавісць да памешчыкаў і царскага ўрада. Яна ў кожны момант гатова была выбухнуць з новай сілай.

### *ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

*1. Што прымусіла царскі ўрад правесці рэформу ад 19 лютага 1861 года ў Расійскай дзяржаве?*

*2. На чыю карысць была праведзена рэформа?*

*3. Як сустрэлі рэформу беларускія сяляне?*

*4. Раскажыце аб выступленнях сялян на Беласточчыне вясной 1861 года.*

# ЦІ ТОЛЬКІ НЯМЕЦКАЯ МОЛАДЗЬ ТАКАЯ?

Моладзь нашага часу значна хутчэй дарастае. У сувязі з тым вучоныя ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (ГДР) праводзяць шырокія даследы над праблемамі кахання. Нядаўна ў ГДР адзін з вучоных, Рольф Борман, выдаў кніжку **«Маладыя і каханне».**

Борман сцвярджае, што ў параўнанні да перадваенных часоў цяпер дзяўчаты даспяваюць хутчэй на 1—2 гады, а хлопцы — на 2 гады. Узнікае ўсё большая розніца паміж іх фізічнай спеласцю і грамадскай спеласцю, што часта даводзіць да ўсялякіх канфліктаў. Разам з тым Борман сцвярджае, што людзі наогул памылкова думаюць наконт, так званых, распусных звычаяў сярод цяперашняй моладзі. Шматгадовыя даследы паказалі, што дружба паміж хлопцам і дзяўчынаю ва ўзросце 16—17 гадоў толькі ў рэдкіх выпадках даводзіць да фізічнага зблізжэння паміж імі. Нават каханне паміж шаснаццацігодкамі з'яўляецца, пераважна, платанічным — чыста духоўным перажываннем.

Дзяўчаты — больш сталыя ў пачуццях дружбы або кахання, чым хлопцы. Дзяўчаты, якія пасля першага фізічнага зблізжэння расчараваліся этычна-маральным абліччам свайго першага хлопца, потым наогул вельмі асцярожныя ў арганізаванні сабе новых знаёмстваў. Толькі **чатыры з паловаю** працэнтаў дзяўчат надалей вядзе сябе лёгкадумна. Сярод хлопцаў — аж **дваццаць два** працэнты.

Найважнейшыя тры прычыны, якія паўстрымоўваюць дзяўчат і хлопцаў ад першага зблізжэння. Гэта: **разважнасць, страх і маральныя прынцыпы. Забароны і крыкі бацькоў не маюць амаль ніякага значэння.** Характэрнае прытым, што амаль палова маладых лічыць сваіх бацькоў за ўзор для свайго будучага сямейнага, шлюбнага жыцця — больш дзяўчаты, чым хлопцы. **Чатырнаццаць** працэнтаў дзяўчат жадае быць першай у жыцці свайго мужа, а ўсяго **адна трэцяя** дзяўчат не прыдае значэння гэтай справе.

Борман правёў даследы сярод дарослых адносна іх погляду на перадшлюбныя інтымныя фізічныя перажыванні паміж дзяўчынаю і хлопцам. Аказалася, што ўсяго **шэсць** працэнтаў дарослых (бацькоў і матак) супраць таго.

У заканчэнне Борман робіць вывад, што цяперашняе пакаленне ў гэтых справах нічуць не горшае ад папярэдніх пакаленняў. Пачуцці кахання, дружбы, бескарыснасці надалей адыгрываюць падставовую ролю ва ўзаемным жыцці маладых. Больш ранняе, чым



калісьці, зацікаўленне хлопца дзяўчынаю, і дзяўчыны хлопцам, аб нічым дрэнным не сведчыць. Размовы аб горшасці маладога пакалення аказваюцца старою і векавою модаю. Аб новым пакаленні заўсёды гаварылася дрэнна, як цяпер, так і 100 або 300 гадоў таму назад. (С.Я.)

Спецыялісты-гляцыёлагі паспрабавалі ўдакладніць колькасць лёду і снегу, якія пакрываюць паверхню зямнога шара. З 1360 мільёнаў куб. км. воднага покрыва Зямлі толькі 35 мальёнаў куб. км. займае ўласна вада: 80 працэнтаў пакрываючай Зямлю вады састаіць з лёду і снегу.

Хаця вялікая частка снегу і лёду сканцэнтравана ў выглядзе айсбергаў

## КОЛЬКІ ЛЁДУ І СНЕГУ НА ЗЯМЛІ?

у Антарктыцы і раёне Грэнландыі, значэнне лёдавага і снежнага покрыва немалаважнае і ў іншых месцах. Да прыкладу талыя веснавыя воды адыгрываюць вялікую ролю ў ірыгацыі і выпрацоўцы электраэнергіі гідраэлектрастанцыямі.

## Навагодняе свята ў Расіі

Цар Пётр I прывёз з Заходняй Еўропы ў Расію звычай святкаваць Новы год. 15 снежня 1699 г. спецыяльны царскі ўказ абвясціў: «Считать Новый год не с первого сентября, а с первого генваря сего 1700 года». У гэтым указе гаварылася аб абавязку святкавання Новага года, складання ўзаемных віншаванняў, а хаты і вуліцы патрэбна было ўпрыгожваць яловымі, сасновымі і ядлоўцавымі галінкамі. З часам людзі пачалі ставіць навагоднія ёлкі. (ся)

## Ці ведаеце вы, што...

...чатырохгадовае дзіця задае старэйшым у сярэднім 437 пытанняў у дзень.

...рука кваліфікаванай стэнаграфісткі праходзіць па паперы на працягу гадзіны адлегласць каля трох з палавінай кіламетраў.

## ЗАЛАТЫ ПАЎНОЧНЫ АЛЕНЬ

Аб залатым алені гаварылася ў неадной чукоцкай легендзе. Гаварылася, што ў глыбі паўвострава спачывае залаты паўночны алень, галава якога ляжыць на Алясцы, а капыта ў Якуціі. Аднак некалькі год назад легенду апраўдалі геолагі сцвярджаючы, што сапраўды на Чукотцы ёсць многа золата. Геолагі ўсё далей яшчэ адкрываюць новыя залежы золата. Да 1970 года дабыча золата на Чукотцы ўзрасце на 41%. Апрача золата Чукотка багатая вуглём, вольфрамам, серабром, горным крышталем, кварцам, бурштынам.



**На здымку: Чукоцкія глыбы золата пацвярджаюць легенду.**

(а-ак)

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### ДОГЛЯД ЗА ЛЮСТЭРКАМ

Многія ўстанаўляюць люстэрка бліжэй да святла, памылкова мяркуючы, што чым больш яно асветлена, тым лепш у яго бачна. Трэба рабіць наадварот: добра асветлена павінна быць не само люстэрка, а тое, што яно адбівае. Таму вешайце люстэрка ў такім месцы, дзе на чалавека, які стаіць перад ім, святло будзе падаць раўнамерна.

Праціраць люстэрка трэба ватай, змочанай у адэкалоне ці гарэлцы. Пасля таго як ачышчана ўся паверхня, куточкі прамываюць ваткай, накручанай на запалку ці тонкую палачку, затым старанна праціраюць шкло мяккай паперай.

Моцна забруджанае люстэрка рэкамендуецца ачышчаць такім саставам: дабавіўшы ў ваду нашатырны спірт (сталовую лыжку на шклянку), змешваць яе з крэйдай ці зубным парашком, каб атрымалася кашыца. Ёю праціраюць люстэрка, карыстаючыся пры гэтым мяккай анучкай, а затым выціраюць насуха мяккай паперай. Моцна мачыць анучку не рэкамендуецца: трапіўшы на шкло, вада можа сапсаваць люстэрка.

Чыстае люстэрка рэкамендуецца прамываць халоднай вадой з прымессю бялізнавай сінькі.

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

## УКРАІНСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МЕНШАСЦЬ У ЮГАСЛАВІІ

У Югаславіі пражывае каля 40 тысяч украінцаў, з чаго 25 тысяч на тэрыторыі аўтаномнай Вайвадзіны — каля 1% усяго насельніцтва акругі. Продкі югаслаўскіх украінцаў пасяліліся тут каля 200 год таму назад.

Украінцы прымаюць актыўны ўдзел у жыцці краіны. Утрымалі яны свае традыцыі, мову, культуру і звычаі. У гмінных радах Вайвадзіны знаходзіцца 46 украінскіх паслоў, а ў краявым парламенце, званым Скупшчына, знаходзіцца дзевяць украінскіх паслоў; у рабочых радах і фабрычных праўленнях — 251, у органах самакіравання і ў школьніцтве — 325, у іншых грамадска- палітычных установах — 140. Да Саюза камуністаў Югаславіі на тэрыторыі Вайвадзіны належыць 325 украінцаў, з чаго 15 камуністаў — украінцаў займае адказныя функцыі ў партыйных камітэтах.

У Вайвадзіне існуе **чатыры** пачатковыя школы, у якіх навучаецца украінская мова і адзін педагагічны ліцэй у горадзе Самбор. Выдавецтва «Руске Слово» выдае тыднёвік «Светлост» тыражом дзвюх з паловаю тысяч экземпляраў, а таксама піянерскую газету і шмат іншых выданняў на украінскай мове. (а — С.Я.)




— Што ж рабіць? — спытаў Абст. — Няўжо спыніць усё?

— Працуй, Артур, працуй спакойна. Мы на парозе вялікай вайны. Яна патрабаваць будзе шмат зброі. — Канарыс памаўчаў і закончыў:

— Бог ведае, колькі мільёнаў людзей трэба будзе знішчыць арміям рэйха. Для гэтага спатрэбіцца любая зброя, якую толькі патрапіць вынайсці чалавек! Каб толькі яна добра забівала...

Нечакана за акном пачуўся енк.

Енк паўтарыўся. Ён нарастаў, перайшоў у пранізлівы лямант і абарваўся.

Абст выскачыў з пакоя.

А за акном ужо чуліся крыкі, тупат. Хлопнуў пісталетны выстрал.

У той жа міг шыба ў акне разляцелася і ў раме узнік твар чалавека. Выкаціўшыеся з арбіт вочы, ускудлачана чорная барада, акрываўленыя кулакі, якімі чалавек малаціў па раме, па рэштках шкла, — пры выглядзе ўсяго гэтага Канарыс адубеў.

Незнаёмы ўціснуў у раму плечы, ухапіўся рукамі за падаконнік... Яшчэ хвіліна, і ён будзе ў пакоі!

Але за акном з'явіўся Абст з памочнікамі і чалавека адцягнулі. Яшчэ некалькі секунд чуваць было шум барацьбы. Затым дом ахутала цішыня.

Вярнуўся Абст.

Гутарка прадоўжылася. Канарыс і яго выхаванак вялі сябе так, быццам нічога і не здарылася.

Цяпер тэмай гутаркі былі плыўцы. Абст дакладваў: днём яны трэніруюцца ў басейне, ноччу — на возеры. Абставіны добрыя. Распрацаваны і ажыццяўляецца цэлы комплекс заняткаў, мэта якіх выпрацаваць і развіць у плыўцоў адвагу, ініцыятыву, знаходлівасць. І ўсё ж гэта не тое, што трэба.

— Чаго ж табе не хапае? — спытаў Канарыс.

— Паху крыві. — Абст усміхнуўся. — Звяры, якіх рыхтуюць для забойства, павінны палюбіць пах крыві.

— Хочаш хутчэй пусціць іх у справу?

— Так. Неабходна, каб плыўцы правялі некалькі аперацый. Яны павінны паверыць у свае сілы.

Канарыс слухаў рассеяна. Перад ім неадступна стаяў твар вар'ята, яго вочы. Ён быў перакананы, што ўжо недзе бачыў гэтага чалавека.

Раптам ён спытаў:

— Брэтмюлер?

Абст кіўнуў.

— Страшна, — прашаптаў Канарыс. — Небарака, да чаго ён дайшоў? Ён вельмі слабы?

Абст пацісн уў плячыма.

— Вядома, — прамармытаў Канарыс. — вядома, калі яго аддалі табе... Шкада Брэтмюлера. Гэта быў добры немец, добры афіцэр.

Сем месяцаў назад германская падводная лодка новай серыі «Віпера» выйшла ў далёкі паход. Ёй даручылі важнае разведвальнае заданне, зашыфраванае як аперацыя «Бібер» (бабёр-рэд.).

Праходзілі тыдні, а вестак аб лодцы не было. Спачатку гэта трывожыла камандаванне — у паходзе лодка павінна была захоўваць радыёмаўчанне. Аднак прайшлі ўсе тэрміны, а «Віпера» не вярнулася. Пошукі выніку не далі. І лодку аб'явілі прапаўшай без вестак.

А потым нямецкі рэфрыжэратар, праходзячы з грузам бананаў каля той базы, якую мела даследваць падводная лодка, вылавіў у моры камандзіра «Віперы». Афіцэр быў у апошняй ступені вычарпання. Але калі жыццё яшчэ тлела ў ім, то розум нешчаслівага быў страчаны.

Капітана Брэтмюлера даставілі ў Германію, дзе найлепшыя спецыялісты ўзяліся за яго лячэнне. Але ўсё аказалася дарэмным — хворага прызналі безнадзейным. І разам з яго розумам была пахавана тайна гібелі «Віперы».

— Даўно ён у цябе? — спытаў Канарыс.

Абст адчыніў шафу, дастаў пачку картачак, выбраў патрэбную.

— Капітан Хано Брэтмюлер дастаўлены ў лабараторыю сорак восем дзён назад, — сказаў ён, прачытаўшы запіс.

— Што ж з ім здарылася?

Абст улажыў картачкі ў сейф, падсеў да госця, пацёр у задуменні скроні.

— Сёння вы абавязкова паедзеце? — спытаў ён. — Мо пераначуеце ў мяне?

— Але... навошта?

— Хацеў бы адкрыць вам адну цікавую справу.

— Гавары!

— Гэта займе шмат часу. Заставайцеся, шэф, не пашкадуеце.

Канарыс задумаўся. Разведчык з вялікай будучыняй. Яго жыццё праходзіла на вачах Канарыса, і тым не менш Канарыс не раз лавіў сябе на думцы, што па-сапраўднаму Абста не ведае.

— Гэта звязана з Брэтмюлерам? — спытаў Канарыс.

— Так.

— Добра, застануся. Але ты цвердзіў — ён безнадзейны?

— Так. Аднак мне ўдалося... Зрэшты, найлепш будзе, калі мы пойдзем да яго. Вы ўсё пабачыце самі.

Канарыс пацісн уў плячыма, але падняўся з крэсла.

— О, не так хутка. — Абст зноў адчыніў сейф, дастаў вялікую жоўтую папку. — Перад наведаннем Брэтмюлера вам трэба пазнаёміцца з гэтым. Тут тайна гібелі «Віперы». Вылечыць Брэтмюлера немагчыма. Аднак мне ўдаец-

# ТРЫБУНА чытачоў

## У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

З наступленнем 1968 года ў Бельскім беларускім ліцэі многа змянілася. Перш за ўсё ліцэй перайшоў з класнай сістэмы ў сістэму кабінетную. Ліцэй меў толькі тры кабінеты: фізічны, хімічны і біялагічны. Цяпер былыя класы сталі кабінетамі. Яны дасканала абсталяваны ў навуковыя дапаможнікі. У гэтым дапамаглі і самі вучні. Напрыклад, навуковыя дапаможнікі ў матэматычны кабінет яны зрабілі самі. Кабінеты выглядаюць вельмі прыгожа і эстэтычна. На вокнах фіранкі. На сценах апрача кветак вісяць (адпаведна да прадмету) партрэты і карціны. Вось у кабінеце польскай мовы партрэты вядомых польскіх пісьменнікаў і паэтаў. У гэтым кабінеце знаходзіцца: магнітафон, радыёла і тэлевізар. Цікава выглядае геаграфічны кабінет. На цэлую сцяну віднее сонечная сістэма. Ёсць многа чарцяжоў па прамысловасці і інш., а найважнейшае — многа геаграфічных карт. У беларускім, як і ў апошніх кабінетах, вельмі прыгожа.

Ліцэй змяніў свой выгляд і на калідоры. На вокнах прыгожыя фіранкі, на сценах карціны сучасных мастакоў, а на прыгожых падстаўках многа кветак. У цэнтры чырвонымі літарамі выпісаны лозунг «У навуцы няма лёгкіх дарог». Цеплыню і нешта роднае надаюць гліняныя паўміскі на сценах. Вучні лічаць ліцэй сваім другім домам. І ён сапраўды, як дом, прытульны і мілы.

**Вераніка Леанюк**
Беларускі ліцэй у Бельску

## КАБ БОЛЬШЫ БЫЎ УРАДЖАЙ

Ад 20 да 23 снежня 1967 года ў Плёсках (Бельскі павет) вялікі рух. Гэта плёскаўскія гаспадары, хто чым мог, ехалі ў Храбалы па мінеральныя ўгнаенні. У гэтым годзе значна іх пабольшала. І так, плёскаўскія палі з кожным годам атрымоўваюць больш угнаенняў і стараюцца адплаціць за гэта гаспадарам — большым ураджаем.

В. Л.
Плёскі

## РЭНТГЕНАЎСКІЯ ПРАСВЯТЛЕННІ

Цэлы тыдзень ад 18 да 23 снежня 1967 года адбываліся ў Храбалах рэнтгенаўскія прасвятленні. За тыдзень часу былі прасветлены ўсе людзі вёсак, якія належаць да ГРН у Храбалах. Выкрыванне туберкулёзу напэўна вельмі важная і патрэбная справа. Адно толькі застанаўляе, чаму ў аддзелах здароўя не падумалі аб дзецях, старых дзядулях і бабулях. Яны ў гэтыя марозныя дні мусяць шмат кіламетраў таптаць у Храбалы і пасля з холаду ціснуцца ў амбуланс. Штопраўда, лекары паступалі гуманна, час ад часу пускалі іх другімі дзвярыма ў амбуланс. Аднак у гэтыя дні было так, што некаторыя паламалі рукі, млелі на марозе, а пасля вяртання дамоў адразу лягалі ў пасцель. Ці не можна было, напрыклад, амбуланс дастаўляць да паасобных вёсак?

Л. В. Храбалы

ца вярнуць яму розум. На вельмі кароткі час. Затым ён пачынае шалець, што вы і назіралі нядаўна. Яшчэ праз гадзіну ён ляжыць бы мёртвы і не можа паварушыць нават пальцамі.

— І ў гэтай папцы гутарка з ім?

— Гутаркі, — паправіў Абст.

— Дык як ты дабіўся гэтага?

— Уздзейнічаў на мозг яго пэўнымі прэпаратамі. У Брэтмюлера пашкоджаны ўчасткі мозгу паблізу таламуса. Гэта загадкавы бугарок у цэнтральнай частцы мозгу. Адзін са шматлікіх сакрэтаў мозгу. Прымяненне прэпаратаў прыводзіць да таго, што ў клетках мозгу пачынаецца працэс разбурэння. Я зрабіў усё, што мог...

— Ён загіне?

— Так. Некалькі разоў на кароткі час мне ўдавалася вяртаць яму памяць. Гэта адзінае, чаго я дабіўся. Але за кожным разам прэпарат дзейнічае штораз слабей. Даводзіцца павялічваць дозу. А гэтага нельга рабіць бясконца — у складзе прэпарата сільны яд.

— Карацей гаворачы?..

— Цяпер я магу ўвесці яго хвораму апошні раз.

— Пры мне?

— Так.

— Навошта ж яго трывожыць? Ці не лепш, каб усё адбылося само сабою? Чорт вазьмі, Артур, ён заслужыў права памерці сваёй смерцю!

— Раней прачытайце гэта, — Абст паказаў вачыма на жоўтую папку. — Прачытайце і будзем вырашаць.

**(Працяг за тыдзень)**

## ШТО Я ЗРАБІЎ У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ

Ёсць звычай, што на парозе новага года падсумоўваюцца дасягненні старога года і на аснове іх накрэсліваюцца планы на наступны год. Хочацца і мне так паступіць, хочацца прыпомніць, што я зрабіў у 1967 годзе. Вядома, за год часу нешта зрабілася ў сваёй хаце, у сваім закутку. Але гэта напэўна нікога не цікавіць, што робіцца «на чужым сметніку ці падворку». Найбольш важнае тое, што ты зрабіў для грамадства, для свайго асяроддзя, для сваёй арганізацыі.

Мне ўжо 70 год. Як кажуць: «стары ляжыць на печы і грэе плечы». Але мне не хочацца яшчэ паддавацца старасці і ляжаць зімой на печы.

Вясной, летам і восенню мае гобы — гэта кветкі. Я вельмі люблю кветкі і пры іх працую ў агародчыку. Зімою другая справа. Не будзеш таптацца па снезе ў сваім агародзе. Зімою я стараюся выконваць грамадскую працу. Хачу сказаць, што я зрабіў для сваёй арганізацыі, гэта значыць для Беларускага таварыства.

І так, у 1967 годзе я арганізаваў новыя гурткі БГКТ у наступных вёсках: Плянце, Трывежы, Навакорніне, Вялікіх Тыневічах, Саках, Сацах, Андрыянках і Белках.

Абслужыў гурткі БГКТ у Семяноўцы, Альхоўцы, Моры, Вітаве, Дабрыводах, Сухавольцах, Ягадніках, Клейніках, Васьках, Храбустоўцы, Макаўцы, Крыўцы, Барысаўцы, Гарадзіску, Трэсцянцы, Койлах і Старым Беразове. Меў я спатканні з вучнямі ў наступных школах: Старыне, Міклашэве, Масеве, Курашаве, Іванках і Агародніках.

Звяртаюся да ўсіх беларусаў, каб у 1968 годзе ўсе яны ў большай ступені чым цяпер масава згуртаваліся ў радах сваёй культурна-асветнай арганізацыі, каб прычыніліся да ўзняцця на вышэйшы ўзровень культуры нашага насельніцтва. Гэты заклік накіроўваю да моладзі, мужчын, жанчын, да беларускай інтэлігенцыі, да пенсіянераў. Давайце ўсе разам закасаем рукавы і хто як можа ўнясем свой уклад у працу нашай арганізацыі, на карысць нашай культуры, на карысць нашай народнай айчыны.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка




Дарагое Сэрцайка!

Мне 24 гады. Да гэтага часу я не думала выходзіць замуж, хоць і мела многа прапаноў. Па-першае, мне здавалася, што гэта яшчэ зарана, а падругое, нікога я не кахала. Між іншымі, да мяне звяртаўся з прапановай жаніцьбы адзін хлапец з маёй вёскі. Аднак ён мне не вельмі падабаўся, і я таксама яму адказала. Цяпер ён працуе ў горадзе, але толькі на нейкі час, бо за пару месяцаў ужо ізноў вяртаецца ў вёску. Быў ён нядаўна ў мяне і ізноў прасіў, каб я пачакала на яго і згадзілася быць яго жонкай.

І вось я падумала, што мо і варта ўжо выйсці замуж. Не таму, што ён мне цяпер лепш спадабаўся, але з іншай прычыны. Мне ўжо скончылася 24 гады і на вёсцы гавораць, што я ўжо кандыдатка ў старую панну. А падругое, мае сяброўкі ўжо павыходзілі замуж, хаця не ўсе, яшчэ пару ёсць. У гэтыя мясніцы выходзяць яшчэ дзве, і то выходзяць так, абы не астацца, баяцца, бо маюць таксама па толькі год, што і я. І я падумала, што мо яны і маюць рацыю, і мне таксама трэба выйсці замуж. Гэта так я думаю, аднак сэрца гаворыць інакш. Што рабіць, Сэрцайка, чаго слухаць: розуму ці сэрца?

Ніна з Гайнаўшчыны

**Дарагая Ніна!**

Не звяртай увагі на сваіх сяброваk, якія выходзяць толькі таму, каб не астацца ў дзеўках. Па-мойму, яшчэ і няма патрэбы так думаць. Ты ж не выходзіш замуж на месяц ці два, а на цэлае жыццё. І каб жыццё гэтае было шчаслівым, дык хіба варта яшчэ пачакаць на такога хлапца, якога падкажа табе і твой розум, і сэрца.

**Сэрцайка**

## ДА МОЛАДЗІ З КОЖЫНА

Рэдакцыя атрымала з Кожына (Бельскі павет) ліст, у якім закранаюцца даволі важныя справы моладзі. На жаль гэтага лісту мы не можам надрукаваць у «Трыбуне чытачоў», таму што ён ананімны, гэта значыць, што няма пад ім подпісу або подпісаў аўтараў лісту. Рэдакцыя не ведае з кім скантактавацца, не ведае хто гэта піша. Мы не маем аніякай гарантыі, што гэты ліст падае праўдзівыя факты. Чаму ж не падпісаўся аўтар, або аўтары пад гэтым лістам? Баяліся? Саромеліся? А мо не ведаюць, што пад кожным прысланым матэрыялам да друку неабходна рэдакцыі ведаць, хто гэта піша?

Рэдакцыя можа па просьбе аўтара не падпісаць яго прозвішча, але ведаць, хто гэта піша, яна мусіць. Ананімных — гэта значыць без подпісаў канкрэтных людзей — інфармацый мы не друкуем.

**Рэдакцыя**



**Дуброва зімою.** Фота: Аляксей Казёл

## У СПРАВЕ ІНФАРМАЦЫІ «ДБАЕ АБ СВАЕ СПРАВЫ»

У «Ніве» ад 7 студзеня прачытала я інфармацыю пад загалоўкам «Дбае пра свае справы». Несправядлівая гэта інфармацыя. Старшыня ГРН у Галадах добры. Не павінна быць да яго ніякіх закідаў. Не робіць ён аніякіх камбінацый, як гэта рабілі яго папярэднікі.

А калі разыходзіцца аб рапак, дык хто хацеў, той і кантрактаваў. А старшыня закантрактаваў таксама — дык што ў гэтым дрэннага?

І гэта зусім няпраўда, што піша Семянюк. Няпраўда, што старшыня дрэнна служыць народу. Старшыня дрэнны і нявыгадны ўсім тым, хто хоча ўладзіць тую ці іншую справу, а рэгуляміны і параграфы на гэта не дазваляюць. Людзі прызвычаіліся да таго, што калі нельга ўладзіць справы законна, то паводле іх старшыня павінен гэта для іх зрабіць, і ўсё.

Па просьбе аўтара інфармацыі не друкуем яго прозвішча.




У святочныя калядныя дні ў нашых вёсках здарылася асабліва многа пажараў. Вось звесткі аб некаторых.

У вёсцы Асоўка ў Гайнаўскім павеце ноччу 6 студзеня згарэла клуня Ўладзіміра Петручука. Агонь праўдападобна зацярушыў ён сам. Гэтага ж самага дня згарэў жылы дом Станіслава Зілінеўскага з вёскі Журобіцы ў Сямяціцкім павеце. У загарэўшымся доме знаходзіліся дзеці: адно 9-цімесячнае і другое — 2-хгадовае. Дзевяцімесячны Кшыштаф ледзь не загінуў. У апошнюю хвіліну адратавалі яго страшэнна папаранага. 8 студзеня ў вёсцы Кнарыды ў Бельскім павеце згарэла вясковая святліца. Папярэдняга дня адбывалася там танцавальная забава, якая закончылася каля 3-ай гадзіны раніцы, а ў 5 гадзін узнік пажар. Затраты ацэньваюць на 50 тысяч зл. У вёсцы Грузкая на Гайнаўшчыне згарэў жылы дом Дзеніса Манцюка. Гэты дом быў ужо вельмі стары. Пажар узнік ад няшчыльнага коміна. Затраты ацэньваюць на 8 тысяч зл.

У вёсцы Аўгустова пад Бельскам 6 студзеня г.г. ішоў вуліцай 65-гадовы нямы і глухі Рыгор Бусловіч. У той момант над'ехала аўтамашына «Пікап», якой кіраваў шафёр Уладзімір Зелянкевіч з Бельска. У апошнюю хвіліну Бусловіч згледзіўся, што за ім едзе машына, скочыў убок і папаў пад колы. Зламала яму правую нагу.

На чыгунцы між станцыяй Лявіцкае і Беластокам пасажырскі цягнік, які ішоў з Чаромухі ў Беласток, пераехаў 25-гадовага чыгуначніка Казіміра Юргуця. Цягнік вялі: машыніст Дзмітры Ефімюк і яго памочнік Мікалай Раманчук. (асака)

## КІНО

**Праграма на 30.I. — 4.II. 1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Kłopoty z miłością'' (NRD), 30.—31.I. ,,Jutro Meksyk'' (polski), 1—2.II. ,,Jowita'' (polski), 3—4.

**Дубіны**
,,Mroźny poranek'' (radz.), ,,Złodziej samochodów'' (radz.), 3—4.

**Нараўка**
,,Dialog'' (bułg.), ,,Sam pośrod miasta'' (polski), 31.I.—4.II.

**Нарва**
,,W poszukiwaniu wczorajszej miłości'' (węgierski), ,,Gwiazdy w morzu'' (węgierski), 31.I.—4.II.

**Чыжы**
,,Najazd Czarnego Księcia'' (radziecki), ,,Ludzie w hotelu'' (USA), 31.I.—4.II.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Matczyne serce'' (radz.), ,,Pierwszy dzień wolności'' (polski), 31.I.—4.II.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 31.I.—4.II.

**Орля**
,,Partyzanckim szlakiem'' (jugosłowiański), ,,Wojenka, wojenka'' (polski), 31.I.—4.II.

**Райск**
,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 31.I.—4.II.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Królowa stacji benzynowej'' (radzieckiej), ,,Westerplatte'' (polski), 30.I.—2.II.

**Міхалова**
,,Śmierć biurokraty'' (kubański), ,,Po wielkiej burzy'' (radz.), ,,Rondo'' (jugosł.), 30.I.—4.II.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Dr Fabrycjusz działa'' (NRD), 30.I.—31.I. ,,Szare kaczątko'' (radz.), 1—2.II. ,,Jowita'' (polski), 3—4.

**Шудзялава**
,,Najazd Czarnego księcia'' (radz.), ,,Gdy miłość przemija'' (jugosł.), 31.I.—4.II.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Katastrofa'' (polski), ,,Zwariowana noc'' (polski), 31.I.—4.II.

**Новы Двор**
,,Sabrina'' (USA), ,,Umrzeć w Madrycie'' (franc.), 3.—4.II.

**Ліпск**
,,Wojenko — wojenko'' (rumuński), ,,Nikt śmiać się nie będzie'' (radz.), 3.—4.II.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7673

